# Голас Радзімы

№ 49 (2087)
8 снежня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



У адной майстэрні працуюць мастакі-керамісты Мікалай БАЙРАЧНЫ і Валянцін ПРЫЕШКІН. У творчай садружнасці яны стварылі шэраг цудоўных работ для інтэр'ераў гасцініцы «Планета» ў Мінску, рэстарана «Бярэзіна», аптэкі і ЗАГСа ў Барысаве, канцэртнай залы камернай музыкі і кафэ «Батлейка» ў Мінску. Іх апошняя работа — афармленне інтэр'ераў салона-цырульні ў Троіцкім прадмесці.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

У КАМІТЭЦЕ СЭУ

## СУМЕСНЫ ПОШУК

Шляхі павышэння эфектыўнасці ўзаемадзеяння эканомік краін сацыялістычнай садружнасці сталі прадметам абмеркавання на 53-м пасяджэнні бюро Камітэта СЭУ па супрацоўніцтву ў галіне планавай дзейнасці. Яно прайшло ў Мінску. З прывітальным словам да прысутных звярнуўся намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржплана рэспублікі В. Кебіч.

У пасяджэнні, якое працягвалася тры дні, прымалі ўдзел кіраўнікі планавых органаў і спецыялісты Балгарыі, Венгрыі, В'етнама, ГДР, Рэспублікі Куба, Манголіі, Польшчы, Румыніі, СССР і ЧССР.

Яны пабывалі таксама на Мінскім заводзе халадзільнікаў, азнаёміліся з экспартнымі магчымасцямі гэтага прадпрыемства.

ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ ПАСЛА ЗША

Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў СССР Джэк Ф. Мэтлак, які знаходзіўся ў Мінску, наведаў Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Тут адбылася гутарка з кіраўніцтвам і актывістамі таварыства.

Госць зрабіў паездку ў Хатынь, усклаў кветкі да помнікаў мемарыяльнага комплексу, пакінуў запіс у Кнізе ганаровых наведвальнікаў.

УРАЧЫСТЫЯ СХОДЫ

## У ГОНАР СВЯТА ЮГАСЛАВІІ

Працоўныя Савецкай Беларусі надаюць вялікае значэнне пашырэнню сяброўскіх сувязей з грамадскасцю Славеніі, Сербіі, народаў усёй Югаславіі. Гэта падкрэслівалася на ўрачыстым сходзе, прысвечаным нацыянальнаму святу СФРЮ — Дню рэспублікі, які прайшоў у Мінску.

З дакладам выступіў міністр лясной прамысловасці БССР Л. Краўцоў. У рабоце сходу прыняла ўдзел сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі Л. Сыраегіна.

## САЛІДАРНАСЦЬ З ПАЛЕСЦІНЦАМІ

Сход прадстаўнікоў грамадскасці горада, прысвечаны Міжнароднаму дню салідарнасці з палесцінскім народам, адбыўся ў сталіцы рэспублікі.

Намеснік міністра народнай адукацыі БССР Г. Бутрым, які выступіў з дакладам, гаварыў аб салідарнасці з палесцінскім народам у яго герайчных дзеяннях за рэалізацыю свайго права на самавызначэнне, дасягненне трывалага і справядлівага міру ў рэгіёне.

На сходзе выступіў прэзідэнт канфедэрацыі палесцінскіх студэнтаў, якія вучацца ў Мінску, студэнт БДУ імя У. І. Леніна Хані Арафат. Ён адзначыў, што яго народ высока цэніць пазіцыю Савецкага Саюза — вялікага сябра і саюзніка арабаў у іх барацьбе за справядлівае вырашэнне праблемы Палесціны — і выказаў глыбокую ўдзячнасць працоўным Беларусі за дапамогу ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў.

ВЫСТАЎКІ



**У Мінску працуе выстаўка «Інфарматыка ў жыцці ЗША». Яна арганізавана інфармацыйным агенцтвам ЗША (ЮСІА) пры садзейнічанні Усесаюзнага аб'яднання «Экспацэнтр» і Гандлёва-прамысловых палат СССР і БССР.**

**Экспанаты (а іх больш за 400) расказваюць аб сапраўднай рэвалюцыі ў галіне сувязі і інфарматыкі, якая адбылася ў ЗША. Наведвальнікі могуць убачыць, як амерыканцы карыстаюцца новымі сістэмамі сувязі і інфармацыі на працы і дома. І кожны знойдзе для сябе нешта асабліва цікавае. Моладзь, напрыклад, больш прывабіць музычная і відэатэхніка, камп'ютэрныя гульні, многіх мужчын — серыйна выпускаемая мадэль аўтамабіля з ЭВМ, жанчын — узор камп'ютэрных кас, што ўстаноўлены ў амерыканскіх супермаркетах.**

**Дваццаць шэсць амерыканскіх гідаў выстаўкі, якія прыехалі ў Мінск, — выпускнікі вядомых навучальных устаноў ЗША, ураджэнцы розных штатаў краіны. Усе ў дастатковай ступені валодаюць рускай моваю, двое ведаюць беларускую.**

**НА ЗДЫМКУ: на выстаўцы «Інфарматыка ў жыцці ЗША».**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ФІРМА «БУМАР» ПРАПАНОЎВАЕ

Пра шляхі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, далейшае развіццё партнёрскіх сувязей ішла гутарка на савецка-польскім сімпозіуме, які адбыўся ў Мінску. У ім прынялі ўдзел спецыялісты Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі БССР і прадпрыемства знешняга гандлю ПНР «Бумар».

Гэта знешнегандлёвая фірма за апошнія восем гадоў экспартавала ў Савецкі Саюз каля чатырох тысяч аўтапагрузчыкаў, што працуюць у розных галінах народнай гаспадаркі. Польскія спецыялісты пазнаёмілі беларускіх удзельнікаў сімпозіума з новымі мадыфікацыямі тэхнікі, якая вызначаецца высокімі тэхніка-эксплуатацыйнымі параметрамі. У будучым годзе некаторыя з іх будуць пастаўлены ў Беларусь і рэалізаваны праз пасрэдніцтва трэста «Белжылкамункамплект».

Прадстаўнікі фірмы прапанавалі таксама беларускім партнёрам свае паслугі ў стварэнні пастаяннай базы запчастак для гэтых машын.

ГОСЦІ З ЧЭХАСЛАВАКІІ



**Мацнеюць сяброўскія сувязі паміж Мінскім па шыпнікавым заводам і канцэрнавым аб'яднаннем «Агразет Зетар» з чэхаславацкага горада Брно. Новы від супрацоўніцтва — абмен групамі работнікаў абодвух прадпрыемстваў, якія выязджаюць на адпачынак за мяжу. Так, восенню 14 чалавек з «Агразет Зетар» прыехалі на адпачынак у санаторый-прафілакторый завода «Белыя Росы».**

**Па водгуках калег з Брно, успаміны засталіся ад двухтыднёвага адпачынку самыя прыемныя. Госці пабывалі на прадпрыемстве, зрабілі паездкі ў Хатынь, на Курган Славы, наведалі Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і ВДНГ БССР.**

**НА ЗДЫМКУ: чэхаславацкая дэлегацыя ў час адпачынку.**

УСЕСАЮЗНЫ СЕМІНАР

## ВОПЫТАМ ПАДЗЕЛЯЦЦА КАЛЕГІ

Мінск наведалі спартыўныя журналісты з Масквы і Ленінграда, многіх саюзных рэспублік. Яны прынялі ўдзел ва Усесаюзным семінары, які праводзілі Дзяржаўны камітэт СССР па фізічнай культуры і спорту і Федэрацыя спартыўных журналістаў СССР.

Тэма семінара: «Творчая лабараторыя спартыўнага журналіста: праблемы, пошук». Прадстаўнікі цэнтральных газет, часопісаў, тэлебачання і радыёвяшчання, ТАСС і АДН, рэспубліканскіх выданняў праслухалі шэраг дакладаў і паведамленняў аб праблемах сучаснага алімпійскага руху, задачах сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды па асвятленню пытанняў масавай фізічнай культуры, эканамічных аспектах перабудовы фізкультурна-спартыўнага руху ў краіне. Журналісты наведалі многія спартыўныя аб'екты горада Мінска, правялі сустрэчы з працоўнымі калектывах. Адбыўся шырокі абмен думкамі па актуальных праблемах спартыўнай журналістыкі.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## ДАПАМАГАЕ ЎЛЬТРАГУК

«Традыцыйнае» кіпячэнне пры стэрылізацыі медыцынскіх інструментаў з поспехам можа замяніць ультрагук. Такую методыку прапанавалі вучоныя Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Створаны імі комплект радыёэлектроннай апаратуры можа з поспехам прымяняцца не толькі ў медыцыне, але і ў оптыцы, ядзернай энергетыцы, гадзіннікавай і электроннай прамысловасці — там, дзе патрабуецца высокая ступень ачысткі паверхняў прыбораў і дэталей.

«Апрацоўка-купанне» вырабаў робіцца спецыяльным мыючым асяроддзем ва ўльтрагукавых ваннах. У адрозненне ад звычайных спосабаў ачысткі тут выключаецца выкарыстанне таксічных і пажаранебяспечных рэчываў, дасягаецца высокая ступень аўтаматызацыі. Нескладаная ў кіраванні, новая тэхналогія зніжае энергаёмістасць працэсу, яна прадукцыйная і гарантуе выдатную якасць.

ДРУГАЯ МАДЭЛЬ ГАСРАЗЛІКУ

## УЗЯЛІ Ў АРЭНДУ

Усе мінулыя гады Івацэвіцкі льнозавод, што на Брэстчыне, працаваў са стратамі. А восень сёлета за дзесяць месяцаў атрымана ўжо 120 тысяч рублёў прыбытку. Дапамаглі падрад, гаспадарчы разлік.

Аднак сёння патрабуецца яшчэ больш эфектыўна весці вытворчасць. Неабходна хутчэй і больш актыўна вырашаць сацыяльныя пытанні, жыллёвую праблему. Гэта заводскія арандатары добра разумеюць. Таму з 1 лістапада калектыў ільнозавода першым у раёне перайшоў працаваць на другую, больш дасканалую мадэль гаспадарчага разліку: узяў завод у арэнду на 12 гадоў.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# *СА ЗДАБЫТКАМІ Ў СТАЛІЦУ*

**У лістападзе-снежні ў Мінску праходзяць Дні паказу дасягненняў народнай творчасці ўсіх абласцей рэспублікі, прысвечаныя 70-годдзю ўтварэння БССР і КПБ. Кожная вобласць і горад Мінск на працягу тыдня знаёмяць мінчан са сваімі культурнымі здабыткамі. Пра асаблівасці падзеі, яе значэнне расказвае намеснік начальніка Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры БССР Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ.**

— Добрая традыцыя правядзення Дзён абласцей у сталіцы існуе даўно. Але, шчыра кажучы, апошнія гадоў дзесяць пра яе нібы забыліся. Таму, калі сёлета было прапанавана аднавіць яе, і ў Мінску і ў абласцях да ідэі паставіліся вельмі добра, з сапраўдным энтузіязмам і натхненнем. Тым больш, што было вырашана прысвяціць усе паказы менавіта дасягненням народнай самадзейнай мастацкай і аматарскай творчасці.

— У ЯКІХ КАНКРЭТНЫХ ФОРМАХ ПРАХОДЗЯЦЬ ПАКАЗЫ?

— На разнастайных выстаўках вельмі шырока прадстаўляецца дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і традыцыйныя народныя рамёствы, праходзіць шмат канцэртаў, творчых сустрэч, адбываюцца прэс-канферэнцыі. І хачу падкрэсліць: асаблівую ўвагу кожная вобласць надае таму, каб паўней пазнаёміць са сваім мясцовым фальклорам як аўтэнтычным, так і сцэнічным.

— КОЛЬКІ ЧАЛАВЕК ПРЫМЕ ЎДЗЕЛ У ПАКАЗАХ?

— У цэлым, калі зрабіць агульны падлік, то атрымліваецца больш за 150 самадзейных калектываў, у якіх 5 тысяч удзельнікаў. Усе яны дадуць больш за 50 канцэртаў.

— ДЗЕ Ў МІНСКУ ПРАХОДЗЯЦЬ ВЫСТУПЛЕННІ ГАСЦЕЙ?

— На лепшых сцэнічных пляцоўках горада: у рэспубліканскім Палацы прафсаюзаў, у зале Белдзяржфілармоніі, Палацах культуры камвольнага камбіната, трактарнага і аўтамабільнага заводаў, чыгуначнікаў. Звычайна такія памяшканні здаюцца адпаведнай прафсаюзнай арганізацыяй у арэнду за грошы. Цяпер жа для гасцей з абласцей яны прадастаўляюцца бясплатна.

— КАЛІ ВЫ ЎЖО ПРЫГАДАЛІ ПРА МАТЭРЫЯЛЬНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ДЗЁН КУЛЬТУРЫ, ТО ЎДАКЛАДНІЦЕ, ХТО ІХ ФІНАНСУЕ.

— Абласныя Саветы. І, дарэчы, грошай звычайна не шкадуюць: ва ўсіх ёсць гарачае жаданне паказацца ў сталіцы з самага лепшага боку, тым больш што талентаў, цікавых людзей на беларускай зямлі хапае. Галоўнае — падтрымаць іх, стварыць спрыяльныя ўмовы для творчасці. Дні паказу і ставяць гэта адной са сваіх мэт.

— ЦІ ПРАЯВІЛІ ЦІКАВАСЦЬ ДА ПАДЗЕІ СТАЛІЧНЫЯ ПРАФЕСІЙНЫЯ ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ?

— Сустрэчы з народнымі майстрамі, спевакамі, танцорамі выклікалі цікавасць і ў простых гледачоў, і ў прафесіяналаў, якія бываюць на канцэртах, выстаўках, сустрэчах. Па выніках работы на пачатку новага года мяркуем правесці спецыяльную навукова-практычную канферэнцыю па праблемах народнай творчасці.

— ЯКІЯ Ж ПРАБЛЕМЫ ВЫЯЎЛЯЮЦЦА Ў ХОДЗЕ АГЛЯДАЎ?

— Праблем хапала і раней, не перавяліся яны і цяпер. Вось, напрыклад, з'явілася тэндэнцыя выкарыстоўваць у мастацкай самадзейнасці галоўным чынам творы сваіх мясцовых аўтараў — музыкантаў, паэтаў, часцей за ўсё таксама аматараў. Сама па сабе з'ява добрая, і трэба яе падтрымліваць. Але нельга не заўважыць, што прафесіяналы вельмі мала ствараюць менавіта для мастацкай самадзейнасці, пакінулі яе па-за сваёй увагай. І гэта ў той час, калі прыкметна расце колькасць аркестраў народных інструментаў, розных хароў. Ці вось яшчэ. У нас на Беларусі існуе больш за паўсотні варыянтаў полькі. А выконваюцца толькі лічаныя з іх. Ды і тыя часта далёкія ад асновы. Карацей, праблем хапае, будзе пра што параіцца на канферэнцыі.

— І АПОШНЯЕ. РАСКАЖЫЦЕ ПРА СКЛАД УДЗЕЛЬНІКАЎ АГЛЯДАЎ.

— Простыя працоўныя людзі: рабочыя, калгаснікі, студэнты, служачыя — прадстаўнікі ўсіх сацыяльных груп насельніцтва. Узрост самы розны. Напрыклад, у Брэсцкай дэлегацыі — ад 3 да 90 гадоў. Трохгадовыя артысты прыехалі з дзіцячым танцавальным ансамблем «Лялькі» з Баранавіч, а дзевяностагадовы ўдзельнік быў у фальклорным калектыве з Іванаўскага раёна на Піншчыне.

## ФОТА З АРХІВА





Вялікая Айчынная вайна (1941-1945 гады) назаўсёды ўвайшла ў гісторыю Беларусі як адна з самых велічных і адначасова трагічных старонак. Яшчэ і сёння сярод нас шмат не толькі сведак тых падзей, але і іх непасрэдных удзельнікаў. Дарэчы, і некаторыя суайчыннікі могуць шмат чаго расказаць пра перажытае імі і іх блізкімі ў гады вайны. Так, гора, смерць неслі гітлераўцы на савецкую зямлю. Але гэтая зямля, людзі яе не скарыліся ворагу. На тэрыторыі рэспублікі нават у час фашысцкай акупацыі захоўваліся месцы, куды не траплялі чужынцы, як было, напрыклад, у Рудабельцы. Партызанскія злучэнні, у якія ўступалі многія мясцовыя жыхары, помсцілі акупантам, дапамагалі Чырвонай Арміі ў тыле ворага і тым самым набліжалі дзень вызвалення.

**НА ЗДЫМКАХ:** «рэйкавая вайна» — група партызан разбірае чыгуначнае палатна ў раёне Оршы. 1943 год; парад беларускіх партызан у вызваленым Мінску. 3 ліпеня 1944 года.

## *У ВІРЫ НЯЛЁГКАГА ЛЁСУ*

# БАЛАДА ПРА ВІНТОЎКУ, СКРЫПКУ І КУКУРУЗУ

РАТУЮЧЫ ад голаду сям'ю, у якой ён пасля трагічнай гібелі бацькі застаўся адзіным кармільцам, шаснаццацігадовы Васіль Мухін з вёскі Зубрэвічы Аршанскага павета добраахвотнікам уступіў у царскую армію, даглядаў тыфозных хворых у палявым лазарэце. Тут і сустрэла яго вестка пра Лютаўскую рэвалюцыю...

У палітыцы таго часу, па яго ўяўленню, Васіль разбіраўся даволі добра. З расказаў бальшавіцкага агітатара, які хаваўся ў іх вёсцы ад царскіх шпікоў, ведаў, што такое «буржуазія», «сацыялізм». Паспеў тое-сёе прачытаць з нелегальнай літаратуры — за плячыма ж была царкоўнапрыходская школа. Але арыентавацца ў бурным патоку вестак, што прыходзілі з Петраграда, станавілася ўсё цяжэй, і таму ён вельмі ўзрадаваўся, калі ў рукі трапіла брашура з пераказам праграм найбольш буйных палітычных партый Расіі. Праглынуў яе за адну ноч. А раніцай уступіў у камуністычную фракцыю шпіталя, неўзабаве сам узначаліў яе.

Дэмабілізаваўшыся з царскай арміі, вярнуўся ў родныя мясціны, стварыў тут бальшавіцкую ячэйку.

У студзені 1919 года па закліку ЦК РКП(б) «Усе на барацьбу з Калчаком!» добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. Удзельнічаў у падаўленні кулацкіх выступленняў у Горках, Магілёве, Гомелі, Лоеве, у ліквідацыі Кранштацкага мяцяжу. Так лёс закінуў яго ў Петраград...

Вымушаны паставіць тут шматкроп'е. Васіль Мухін здолеў спрасаваць у сваёй біяграфіі некалькі жыццяў: селяніна, салдата, рабочага, партыйнага работніка, вучонага, дзеяча мастацтваў, кожная з якіх вартая асобнага расказу. Аб'ём гэтай публікацыі дазваляе ўзнавіць толькі некалькі эпізодаў.

...Васіль апрытомнеў ад страшнага болю. Ледзь хапіла сіл расплюшчыць павекі. Пакутліва намагаўся зразумець, дзе ён. Чаму ляжыць у салдацкім шынялі ў лазарэце? Што крычаць яму два фашысцкія афіцэры? Да яго даходзілі толькі абрыўкі фраз. Не ўбачыў, хутчэй адчуў дотык пісталета, які адзін з гітлераўцаў прыставіў да лба. Але страху не было. Не зведаў палёгкі і тады, калі ў апошняе імгненне фашыст чамусьці змяніў свой намер.

Тады яго выратавала выпадковасць. За некалькі дзён да трагічнага бою пад Порхавам, дзе ён быў цяжка паранены — куля прайшла крыху вышэй сэрца, — камісар Васіль Мухін падстрыгся «пад нуль», а абыходзячы пазіцыі, накінуў на плечы ад холаду салдацкі шынель. Непрытомным яго даставілі ў шпіталь. А літаральна следам за санітарамі сюды ўварваліся фашысты.

Разам з Мухіным у палоне апынулася некалькі байцоў, якія добра ведалі, што пад выгляда давога чырвонаармейца хаваецца чле ЦК партыі. Але ніхто з іх не спакусіўся на хлеб здрадніка.

Больш як тры гады правёў ён у канцлагерах. Рацэбург, Гомерштэйн, Грэйсфельд, Ламбсдорф... Мяняліся назвы. Але катаванні, здзекі над савецкімі ваеннапалоннымі ўсюды былі аднолькава садысцкімі і вытанчанымі.

Камісар стварыў падпольную арганізацыю знявс іх, якая старалася, як магла, падтр іваць слабейшых: распаўсюджвала зводкі аб падзеях на фронце, аберагала хворых, арганізоўвала ўцёкі. Некалькі разоў спрабаваў вырвацца на волю і ён сам. Пасля чарговай няўдачы яго кінулі ў каменнае сутарэнне, сказаўшы, што раніцой расстраляюць.

Голад, фізічныя катаванні ператварылі камісара ў жывы шкілет. Але і ў гэтым стане жыў у ім мяцежны дух бальшавіка-ленінца. Вядома ж, хацелася дачакацца перамогі. Але і за пражытыя гады не было сорамна. Усюды, куды ні пасылала яго партыя, Васіль Мухін сумленна выконваў свой абавязак: змагаўся з белагвардзейцамі і кулакамі, арганізоўваў чырвоных вынаходцаў (так называлі тады наватараў вытворчасці). Пасля заканчэння камуністычнага універсітэта ў Ленінградзе быў накіраваны на работу ў ЦК ВКП(б), з важнымі даручэннямі пабываў амаль на ўсіх буйных будоўлях краіны. У трыццаць пятым, вяртаючыся з чарговай камандзіроўкі, трапіў у авіякатастрофу. Сем месяцаў змагаліся ўрачы за яго жыццё. А калі паставілі на ногі, парэкамендавалі весці больш спакойнае жыццё. Больш спакойнае! І ў навуцы (намеснік дырэктара Дома вучоных АН СССР), і ў мастацтве (сакратар партыйнай арганізацыі Эрмітажа) ішла ярасная барацьба за сацыялізм. І камісар не шкадаваў сябе, знаходзячы асалоду ў цяжкай працы...

КАЛІ РАНІЦАЙ канвойныя адкрылі дзверцы камеры, яны аслупянелі: на каменнай падлозе ўзвышалася... скульптура Бетховена.

Аглядаючы сваё апошняе жыллё, Васіль Мухін знайшоў тут гліну і ваду, пакінутыя, відаць, для нейкіх работ. Па памяці стварыў скульптуру славутага нямецкага кампазітара — ён незадоўга да вайны скончыў студыю скульптуры.

Незвычайнаму вязню захавалі жыццё. І нават дазволілі займацца ў камеры лепкай. Падвяргаючы сябе смяртэльнай небяспецы, ён зрабіў скульптуры Маркса, Леніна, а на выпадак візіту няпрошаных гасцей прыдумаў камуфляж, які дазваляў імгненна зрабіць дарагія рысы непазнавальнымі...

Ён цудам застаўся жывы. Але гэты цуд камісар у немалой ступені здзейсніў сам — тым, што не ўпаў духам, што да канца працягваў барацьбу.

Пасля вызвалення пачаліся бясконцыя пакуты па інстанцыях, дзе патрабавалі адназначнага адказу: як ён, партыйны работнік такога высокага рангу, сумеў уцалець у фашысцкім палоне?

Камісара пазбавілі партыйнага білета і ўсіх званняў. Гэты ўдар быў цяжэйшым удвая, таму што не было з кім падзяліць яго: у блакадным Ленінградзе памерлі ад голаду жонка і два сыны. Больш дзесяці гадоў ён працаваў простым сталяром у Эрмітажы, чакаючы кожны дзень арышту. Яшчэ зусім нядаўна аб гэтым перыядзе ў гісторыі нашай краіны лічылі за лепшае не пісаць Але ыў — і яго не выкрасліш.

Прыйшоў дзень, і Васіля Мухіна поўнасцю рэабілітавалі: вярнулі партбілет, аднавілі партыйны стаж. На гарызонце ўпершыню за ўсё яго жыццё замаячыла ціхая гавань. Кніжка персанальнага пенсіянера саюзнага значэння гарантавала спакойнае і бязбеднае існаванне, а здароўе ўсё больш патрабавала да сябе павышанай увагі. Але стары камісар адхіліў такую будучыню.

Тут канчаецца балада вінтоўку і пачынаецца балада пра скрыпку.

У ДАЛЁКІМ дзевятнаццатым годзе, знаходзячыся са сваім палком у Гомелі, куды іх часць адвялі на адпачынак і папаўненне, чырвонаармеец Васіль Мухін трапіў на канцэрт і ўпершыню пачуў голас скрыпкі ў руках прафесійнага музыканта. Ён літаральна быў узрушаны. Інструмент гучаў зусім не так, як на вясковых вяселлях — не пілікаў назойліва няхітрую мелодыю, а спяваў, смяяўся, стагнаў і плакаў.

У першы ж дзень свайго грамадзянскага жыцця ён пайшоў на Аляксандраўскі рынак у Петраградзе і купіў скрыпку. Паспрабаваў іграць. Але чараўніцтва не было, хоць Васіль меў нядрэнны музыкальны слых. Тады ён разабраў інструмент на дробныя часткі. Так пачаўся пошук душы скрыпкі, які прывёў да цікавых вынікаў...

«Калі ён з'явіўся на рэпетыцыі аднаго з ленінградскіх аркестраў і паклаў перад музыкантамі нейкае падабенства скрыпкі, склеенай з пенапласту, яны вырашылі, што перад імі чарговы дзівак. Потым з-за цікаўнасці нехта са скрыпачоў, нават не вымаючы так званую скрыпку з футляра, правёў смыком па струнах. І... усіх уразіў цёплы гук...» («Социалистическая индустрия», 1978, 24 верасня).

Скрыпка з пенапласту? А як жа шматвяковае перакананне, што для вырабу гэтага інструмента прыгодная толькі пявучая драўніна, пераважна елкі і клёна, якую неабходна вытрымліваць многа гадоў, апрацоўваць асобым лакам? Дасведчаныя людзі гавораць, што сапраўдную скрыпку можа вырабіць толькі ўнук з дрэва, нарыхтаванага яшчэ яго дзедам.

З заключэння дзяржаўнага квартэта імя С. Танеева Ленінградскай філармоніі:

«Да гэтага часу лічылася, што пластмаса не можа надаць гучанню струннага інструмента прыгожы і цёплы тэмбр. Але, як паказала апрабаванне скрыпак таварыша Мухіна, выраб іх мае вялікую будучыню».

Само выпрабаванне закончылася кур'ёзна. Па просьбе Ленінградскага радыё квартэт выканаў дзве п'есы — Моцарта і Чайкоўскага — спачатку на незвычайных інструментах Мухіна, а затым на скрыпках, выраблены італьянскімі майстрамі, якія вядуць сваё мастацтва ад вялікага Страдзівары. Гукааператару хацелася дабіцца як мага лепшага гучання, таму запіс рабілі некалькі разоў. І калі потым сталі падбіраць для мантажу лепшыя варыянты, аказалася, што адрозніваць галасы італьянскіх і мухінскіх скрыпак немагчыма...

У яго кватэры сто скрыпак. Калі бывае цяжка на душы, ён бярэ адну з іх, лёгкім дотыкам смыка кранае струны — і льецца моцная, мужная мелодыя «Інтэрнацыянала»...

Не, ён не ханжа, ён здольны зразумець і «цяжкі рок», і іншую сучасную музыку. Але да партыйнага гімна ў Васіля Мухіна свае адносіны. Ён выконваў яго на скрыпцы ў канцлагеры, калі здавалася, што ўжо ніякая сіла не здольная ўзняць людзей з нараў пасля страшных пабояў, удыхнуць жыццё ў амаль мёртвыя целы. Але якім полымем загараліся вочы зняволеных, калі чулі яны свяшчэнныя гукі «Інтэрнацыянала», які гнеў перапаўняў сэрцы: многіх з іх гэта мелодыя літаральна вырвала з кіпцюроў смерці.

ТАЛЕНТ гэтага чалавека злучыў, здавалася б, немагчымае — музыку і пластмасу. Але яшчэ больш дзіўных спалучэнняў у яго ўласным лёсе.

Эксперыменты па вырошчванню кукурузы ў паўночных раёнах краіны, якія праводзіліся ў пачатку шасцідзесятых гадоў , як вядома, праваліліся. І цяпер аб гэтым успамінаюць, як правіла, толькі з горкай усмешкай. Вось, маўляў, куды можа завесці чалавека надзвычай буйная фантазія. Мухін не прылічваў сябе ні да аптымістаў, ні да песімістаў. Ён ведаў: любая расліна можа прывольна расці ў той кліматычнай зоне, да якой прывыкла, і настойліва вырошчваў на невялікай дзялянцы найбольш непатрабавальныя сарты, скрыжоўваў іх, адбіраў лепшае насенне. На гэтую работу ішла значная частка пенсіі і амаль увесь вольны ад ранняй вясны да позняй восені час. Настойлівасць прынесла цудоўны вынік. Выведзены ім сорт «белая ноч» дае ўраджай, які не ўступае таму, што вырошчваюць на поўдні.

Ленінградскія кінадакументалісты знялі фільм «Без асабістай выгады», які расказвае аб надзіва рознабаковым таленце В. Мухіна. Добрая назва, трапная, але, на жаль, няпоўная.

Здзейсніўшы, на думу спецыялістаў, сапраўдны пераварот у поглядах на вытворчасць струнных музычных інструментаў, ветэран не змог (не хапіла сіл) пераадолець сцяны абыякавасці і бюракратызму. Спробы стварыць хоць бы маленькую лабараторыю, якая б развіла, паставіла на навуковую аснову яго метад, ні да чаго не прывялі. Вырашчаную ім незвычайную кукурузу таксама можна ўбачыць толькі на яго маленечкім, выдзеленым для выпрабаванняў участку.

Можа быць і не да месца ў гэтай мажорнай публікацыі такія мінорныя ноткі. Але не дазваляе сумленне прамаўчаць. 86 гадоў ветэрану! Можна захапляцца, што пражыў ён жыццё без асабістай выгады. Але нельга дапусціць, каб — без выгады дзяржаве, грамадству. Гэта супярэчыла б духу Вялікага Кастрычніка, нашай сённяшняй рэвалюцыйнай перабудове.

**Уладзімір ШАРПІЛА.**

*ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ВУЧОНАГА*

# АКЦЭНТ НА ПАЛІТЫЧНЫЯ ПРАВЫ

**10 снежня ў сувязі з 40-годдзем прыняцця ААН Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў Савецкім Саюзе, як і ў іншых дэмакратычных дзяржавах свету, будзе адзначацца Дзень правоў чалавека.**

**Як напоўніць правы грамадзян больш глыбокім якасным зместам! Наконт гэтага ў краіне існуюць розныя пункты гледжання. Вось адзін з іх—ён належыць мінскаму юрысту Аляксандру АБРАМОВІЧУ.**

Традыцыйная сацыялістычная канцэпцыя правоў чалавека зыходзіць з прыярытэту сацыяльна-эканамічных правоў асобы ў агульнай сістэме яе правоў і свабод. Адпаведна, на забеспячэнне перш за ўсё гэтых правоў зарыентавана і ўся палітыка-прававая сістэма СССР, уключаючы Канстытуцыю краіны. З аднаго боку, гэта разумна, паколькі сацыяльна-эканамічныя правы—на працу, на адпачынак, на ахову здароўя, на жыллё—маюць жыццёва важнае значэнне для кожнага чалавека.

Разам з тым, як паказаў вопыт сацыяльнага развіцця нашай краіны і шэрагу іншых сацыялістычных дзяржаў, для забеспячэння свабоднага самавыяўлення асобы ў грамадстве не менш важная гарантаванасць (а не толькі абвяшчэнне, дэкларыраванне) асноўных палітычных правоў і свабод і ў першую чаргу права на рэальны ўдзел у кіраванні дзяржаўнымі і грамадскімі справамі, свабоды слова, друку, дэманстрацый. Незабяспечанасць імі ў рэшце рэшт вядзе да адчужэння ўлады народа. Сумнае пацвярджэнне таму дае наша гісторыя, дзе фармалізм у рэалізацыі палітычных правоў і свабод парадзіў дыктатуру аўтарытарнай улады.

Гісторыя сведчыць і аб іншым: калі ў грамадстве няма надзейных гарантый для таго, каб усе грамадзяне маглі актыўна карыстацца сваімі палітычнымі правамі, пад пагрозай аказваюцца і іх сацыяльна - эканамічныя правы. Прыклад таму—распаўсюджаны ў СССР да нядаўняга часу так званы «астаткавы» прынцып накіроўвання інвестыцый у сацыяльную сферу.

Такім чынам, недастатковае развіццё палітычных правоў і свабод грамадзян, слабая іх гарантаванасць вядуць да дэстабілізацыі прававога статуса асобы ў цэлым. Адсюль вынікае, што для забеспячэння адпаведнага становішча асобы ў грамадстве найважнейшае значэнне мае рэальнае прадастаўленне насельніцтву права на ўдзел у кіраванні справамі грамадства і дзяржавы. Гэта значыць фактычная, а не толькі фармальная прыналежнасць улады народу. Менавіта гэты напрамак развіцця савецкага грамадства падкрэслены ў рашэннях XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі ў якасці галоўнага на наступныя гады.

Шляхі і сродкі ад «улады імем народа» да ўлады самога народа, а значыць, да адпаведнай забяспечанасці палітычных правоў і свабод грамадзян, вядома ж, разнастайныя. Ужо нямала зроблена ў гэтым напрамку, хаця ўсе ў СССР разумеюць, што галоўнае яшчэ наперадзе. І тут, як мне здаецца, не трэба забываць вось пра што. Актывізацыя чалавечага фактара, без чаго немагчымыя ніякія сур'ёзныя перамены да лепшага, можа адбыцца толькі пры адной абавязковай умове—самым строгім забеспячэнні недатыкальнасці асобы, гарантаванасці яе ад неабгрунтаванага ўшчамлення правоў. І стварацъ падобныя самыя строгія гарантыі, якіх пакуль няма, трэба ўжо цяпер.

Зразумела, што вырашэнне гэтай праблемы запатрабуе ажыццяўлення цэлага комплексу палітыка-прававых і арганізацыйных мер. Гэта — дэмакратызацыя фарміравання і функцыяніравання судовай сістэмы, рэарганізацыя следчага апарату і істотнае павышэнне прафесійнага ўзроўню яго кадраў, карэннае паляпшэнне пракурорскага нагляду за захаваннем законнасці і г. д. Першаступеннае значэнне, на мой погляд, маюць таксама кардынальныя змяненні ў інстытуце абароны ў крымінальным працэсе. І ў прыватнасці, допуск адваката да ўдзелу ў ім на самай ранняй стадыі.

Характэрна, што [illegible] гэтая прапанова яшчэ [illegible]олькі абмяркоўваецца, яна ўжо сустрэта ў штыкі кіраўнікамі і апаратам некаторых праваахоўных органаў (у тым ліку па той прычыне, што следчы апарат пакуль не гатовы працаваць у такіх нязвыклых для яго формах). Думаецца, што ў гэтых умовах сваё слова ў [illegible]ону новага дэмакратыч[illegible] парадку павінны ўзяць вучоныя, публіцысты, дзеячы культуры. Бюракратыя ж больш за ўсё баіцца публічнасці.

Актыўнай падтрымкі грамадскасці патрабуе і другая праблема абнаўлення крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага заканадаўства, якая намячаецца сёння. Размова ідзе аб гуманізацыі ўсяго крымінальнага заканадаўства СССР і перш за ўсё аб безумоўнай адмене пакарання смерцю за ўсе тыя шматлікія злачынствы, якія пакуль ім прадугледжаны. Таму што з-за адносна невялікай «удзельнай вагі» іх у агульнай масе злачынных дзеянняў, а таксама дзякуючы эканамічнай і палітычнай стабільнасці Савецкай дзяржавы, ні адно з гэтых злачынстваў непасрэднай пагрозы яе існаванню не стварае. Вось чаму прымяненне пакарання смерцю трэба захаваць, на мой погляд, толькі ў адным выпадку—за кваліфікаванае забойства, што абумоўлена неабходнасцю абароны чалавечага жыцця як вышэйшай каштоўнасці сацыялістычнага грамадства.

Вядома, у асобных выпадках на цяперашнім этапе перабудовы ёсць неабходнасць і ва ўзмацненні крымінальнай адказнасці, напрыклад, за злачынства супраць выбарчай сістэмы. Але ў цэлым крымінальнае і крымінальна-працэсуальнае заканадаўства мае патрэбу ў істотнай гуманізацыі і дэмакратызацыі. І гэта вельмі важны напрамак далейшага паляпшэння становішча з правамі чалавека ў СССР, абнаўлення ўсяго грамадскага жыцця на прынцыпах прававой дзяржавы.

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ШУКАЮ І ЗНАХОДЖУ ДОБРАЕ

Ад тых, хто ўжо бываў у Мінску, я ведала, што гэта сталіца беларускага краю, дзе ў гады Вялікай Айчыннай вайны загінуў кожны чацвёрты, горад садоў і паркаў, шырокіх праспектаў і чыстых вуліц, музеяў і канцэртных залаў, горад добрых і спакойных людзей, адроджаны з попелу і руін, які пастаянна будуецца.

Вось тут мне было суджана па запрашэнню Таварыства «Радзіма» правесці дзесяць дзён. У любой паездцы лягчэй за ўсё запомніць архітэктуру і прыроду, але даведацца пра людзей, іх звычаі, характар, вобраз мыслення, знайсці тое, што звычайна схавана ад вока, можна толькі ў тым выпадку, калі едзеш з адкрытым сэрцам насустрач новаму, з вялікім, шчырым жаданнем даведацца і палюбіць яго.

Я часта выходзіла на балкон гасцініцы. Унізе распасціраўся новы горад. Бетон, калі на яго глядзіш зблізку, не вельмі прыгожы, але здалёк усе гэтыя стройныя, высокія будынкі, размешчаныя на другім беразе Свіслачы ў вельмі цікавым і арыгінальным парадку (чым недарэмна ганарацца мінскія архітэктары), робяць надзвычайнае ўражанне. Вечарам і ноччу відаць асветленыя вокны жылых дамоў і атэляў і помнік-абеліск гораду-герою, які адлівае серабрыстым святлом.

На Радзіме ў мяне заўсёды адкрываецца другое дыханне, больш сіл фізічных і духоўных і добры настрой. Гэта зусім не значыць, што ніхто мне яго не псаваў. Насупраць, было і такое. Але я за сваё жыццё навучылася адрозніваць важнае ад дробязнага і ўмею падняцца вышэй на пару прыступак, адкуль відаць больш і многае становіцца зразумелым.

Збіраючыся ў дарогу, я перачытала нанава амаль усе творы пісьменніка Васіля Быкава. Пакланенне перад мастацкай літаратурай у мяне было ўсё жыццё, яшчэ да таго, як я стала ёю займацца прафесійна. Там можна знайсці намнога больш, чым мы даведваемся з навуковых прац. А калі гэтыя творы напісаны выдатным, сапраўдным пісьменнікам, для якога боль народны — яго боль, то тым больш. Мне вельмі-вельмі хацелася пагаварыць з пісьменнікам, але не ўдалося. Ён быў у ад'ездзе. Я напісала і пакінула для яго пісьмо. Мяне таксама займае псіхалогія чалавека ў цяжкіх, неардынарных умовах. Спрабую разгадаць, дзе закладзены тыя духоўныя сілы, якія дапамагаюць чалавеку, нягледзячы ні на што, здзяйсняць гераічныя ці проста сумленныя ўчынкі, і дзе тыя, што прыводзяць да злачынства.

Я думаю, што цяпер, у перыяд новага мыслення і пераасэнсавання ўсяго нашага шляху, гэтае пытанне адно з надзённых, якое патрабуе неадкладнага даследавання і разумення.

Сустрэча з народным мастаком Міхаілам Савіцкім была вельмі цікавай, вельмі для мяне патрэбнай. Мысліцель, акадэмік, мастак у поўным сэнсе слова, чалавек, які прайшоў цяжкія выпрабаванні ў фашысцкіх канцлагерах, не перастае задумвацца над трагедыйнымі бакамі жыцця. Высокі, худы, з сівой бародкай і сумнымі вачыма, ветлівы і сур'ёзны, ён прысвяціў мне больш за дзе гадзіны. Многа сваіх работ паказваў. Яны мне вельмі спадабаліся. Цяпер ён працуе над серыяй карцін «Чорная быль». «Я павінен паспець завяршыць гэтую серыю, гэта мой абавязак»,— сказаў Міхаіл Савіцкі. На памяць я атрымала альбом рэпрадукцый серыі карцін «Лічбы на сэрцы» аб вязнях фашысцкіх лагераў. Пасля сустрэчы засталося пачуццё дотыку да нечага добрага, значнага і дарагога.

Паездка ў Хатынь. Тут кожныя трыццаць секунд б'юць званы ў памяць загубленых, зажыва спаленых вясковых жыхароў. Гэты помнік — маўзалей на зямлі, якая набрыняла крывёю, дзе на месцы кожнай хаты стаяць абгарэлыя коміны, скульптура Нязкоранага чалавека з паміраючым сынам на руках, тры бярозы і Вечны агонь. Гэта сімвал таго, што кожны чацвёрты загінуў, і ўсё навокал — гэта крык д[illegible]ы: «Людзі! Глядзіце! Н[illegible]бывайце! Помніце! Не дап[illegible]ціце!»

Зямля Беларусі, спакутаваная зямля, дзе людзям давялося прыняць на сябе першы нечаканы ўдар. Знаходжанне ў Брэсцкай крэпасці. Ля ўваходу дыктар гаворыць тыя страшныя, незабыўн[illegible] словы: «Ад Савецкага [illegible]рмбюро. 22 ліпеня верало[illegible]а...»

Ходзіш і глядзіш, слухаеш гіда, чытаеш на сценах: «Мы стаялі на смерць», «Гінем, але не здаёмся».

Дастаткова хоць на адну хвіліну паставіць сябе на месца тых маладых хлопцаў і дзяўчат, якія не паспелі яшчэ зведаць, што такое жыццё, і становіцца жудасна, страшна, нават неяк нясёмка, узнікае пачуццё віны, прабірае мароз.

У Мінску, у музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, трыццаць залаў. Ходзіш і ходзіш па іх і задаеш сабе пытанне: як можна было ўсё гэта вытрымаць? І расце пачуццё гонару за твой народ, за тваю датычнасць да гэтай барацьбы.

Зразумела і адчула я сутнасць народную, звычаі, вобраз мыслення, здольнасці, рысы характару ў музеі прыкладнога беларускага мастацтва ў Раўбічах. Колькі добрага, цудоўнага пра свой народ мне расказала сімпатычная дзяўчына — экскурсавод. Музей размешчаны ў адрэстаўрыраваным касцёле і пакідае добрае ўражанне. Народныя касцюмы, вырабы з дрэва, саломы, ільну, кераміка, шкло — усё гэта вынік народнай выдумкі, народнай творчасці.

Мне здаецца, каб зразумець сэнс, характар, думкі і спадзяванні любога народа, трэба пабываць там, дзе нарадзіліся лепшыя яго сыны. А каб зразумець, адчуць і ўнікнуць у вобраз мыслення беларусаў, трэба паехаць у запаведнік «Вязынка», у дом, дзе нарадзіўся народны паэт Беларусі Янка Купала.

Асветленыя сонцам паляны, лес, сажалкі і маленькі драўляны домік. І зноў табе расказваюць няхітрую біяграфію чалавека, які ў сваіх вершах выказаў душу народа.

Было далёка за поўдзень. Ціха, толькі шамаціць лісце на дрэвах, перагаворваецца. Уся сядзіба пагружаецца ў цень, праходзіць імгненне, і раптам ўсё асвятляецца радасцю, усё пяе і іграе. Зеляніна сакавітая, поўная спакою, раўнавагі, стрыманасці, цярплівасці, упэўненасці ў непахіснасці жыцця на зямлі.

Не ведаю, можа гэта ўсё суб'ектыўнае, чыста асабістае ўспрыняцце, але са мной у гэтым запаведніку адбылося нешта непаўторнае...

Усе гэтыя ўражанні былі яшчэ падмацаваны штодзённым наведваннем тэатраў, што для мяне з'яўляецца нормай, куды б я ні прыехала. У тыя дні гастралявала ў горадзе два тэатры, Свярдлоўскі дзяржаўны акадэмічны тэатр драмы і Ленінградскі маладзёжны тэатр на Фантанцы. Я паглядзела восем спектакляў, цікавых па сваёй тэматыцы, ігры, трактоўцы, музычнаму і мастацкаму афармленню.

Асабліва цікавыя, надзіва актуальныя былі п'есы. В. Розава «Кабанчык» і Н. Каляды «Гульня ў фанты». Люблю вельмі савецкі тэатр усё жыццё, і кожная такая сустрэча надае мне духоўны зарад. Прыўзняты настрой не пакідаў мяне ўсе гэтыя дні.

Напасрэдных знаёмстваў з людзьмі было нямнога, але нават тыя адзінкавыя гавораць аб высокай эрудыцыі, адукаванасці, жывой зацікаўленасці ўсім, чым жыве краіна і ўвесь свет. Мяне спытаюць: «Што ж было дрэнна, што перашкаджала, што хвалявала і выклікала пачуццё крыўды, сораму, незадаволенасці?»

Так, на жаль, і такое было: дробныя непаразуменні ў гасцініцы, няўдалы сервіс у рэстаране, шумная дыскатэка і г. д. Але аб усім гэтым ужо пісалася ў розных артыкулах, і ўсё гэта мы ўжо ведаем.

Галоўнае ўражанне застаецца ад іншага. У мяне — ад добрага. Я яго шукаю і знаходжу заўсёды.

Да мяне прыязджалі сябры з майго роднага горада, мне званілі сваякі і знаёмыя з розных гарадоў. Я ўсім была патрэбна, мяне любілі, мной цікавіліся, пра мяне клапаціліся, і я была ад гэтага шчаслівай.

Апошні вечар. Я іду ў тэатр уздоўж вуліцы Янкі Купалы пешшу. Вечар такі добры, ціхі, спакойны. Іду міма садоў і паркаў, кветнікаў і помнікаў Янку Купалу, Марату Казею, Максіму Багдановічу. Фантаны, будынак оперы, мост праз Свіслач. Людзей на вуліцы мала. Мне трэба дайсці да цырка, а потым направа ўверх да Дома афіцэраў. Ідучы пешкі, можна спакойна ўсё абдумаць, нанава перажыць, перагартаць каляндар, каб запомніць назаўсёды.

І вось ужо ад'езд. На пероне мяне праводзяць. Апошнія словы падзякі з абодвух бакоў, пажаданні шчаслівай дарогі.

Поезд крануўся.

Да пабачэння, Мінск! Да новых сустрэч!

**Марыя КАЗЛОЎСКАЯ.**
Аўстрыя.

# НА ПУТИ К СОЛНЕЧНОЙ ЭНЕРГЕТИКЕ

Солнце посылает на Землю целый океан энергии, и ученые давно ищут пути ее использования. Однако в ее широком практическом применении есть еще немало трудностей. Прежде всего это неравномерность солнечного излучения, его зависимость в большинстве районов страны не только от времени суток и времени года, но и от погодных условий. Поэтому пока что наибольшее распространение солнечные установки получили в республиках Средней Азии, отличающихся большим числом ясных дней. К тому же там имеются огромные пустынные и полупустынные пастбища, требующие обводнения. Насосные станции, которые приводятся в действие солнечной энергией, спокойно «мирятся» с остановками на ночь. К тому же их работа требуется с апреля по сентябрь, то есть во время солнечного «пика». Поэтому небольшие солнечные установки мощностью от одного до десяти киловатт здесь вполне эффективны.

В стране сейчас действует также несколько сот установок солнечного горячего водоснабжения и отопления. Этому способствовало освоение с 1984 года промышленного выпуска основных элементов данных систем — плоских солнечных коллекторов. За последние полтора-два года солнце стало «обслуживать» пансионат «Кастрополь» в Крыму, санаторий «Челюскинец» в Гагре на Кавказе, санаторий в Джизакской области в Узбекистане. Начинает солнце работать и на производстве — в специальных печах его энергия выплавляет металл, в сельском хозяйстве помогает обогревать теплицы, сушить сырье, используется в ряде других процессов.

Ученых давно уже манит более фундаментальная цель — солнечные лучи должны вырабатывать электричество в промышленных масштабах наравне с привычными тепловыми и гидравлическими станциями. Здесь также сделаны первые шаги.

Я побывала на первой в стране опытно-промышленной СЭС (солнечной электростанции), построенной в Крыму неподалеку от Керчи. Она сдана в эксплуатацию в конце 1986 года.

Гигантское зеркальное поле в 40 тысяч квадратных метров состоит из 1 600 зеркал-гелиостатов. В небо уходит башня высотой более 80 метров, на вершине которой укреплен котел-парогенератор. Солнечные лучи, пойманные зеркалами, фокусируются на поверхности котла и нагревают в нем воду до кипения. А дальше схема обычная — пар подается в машинный зал и приводит в действие турбину, вырабатывая электрический ток. Так работает СЭС-5, то есть солнечная электростанция мощностью 5 тысяч киловатт.

Станция создана для накопления научной и практической информации, необходимой энергетикам: ведь СЭС-5 — это только первый шаг, по ее образцу разрабатывается проект электростанции мощностью уже 300 тысяч киловатт.

Многие установки для использования энергии солнца созданы сотрудниками Государственного научно-исследовательского энергетического института имени Кржижановского (ЭНИН), расположенного в Москве. А в Крыму на южных склонах гор в живописном месте неподалеку от курортного города Алушты находится теперь одна из его научных баз — гелиоцентр.

Как сказал мне заведующий гелиоцентром, кандидат технических наук В. Рыбалко, это городок — уникальный научный комплекс. Он, в частности, оборудован созданной по последнему слову науки и техники установкой — комбинированной си[стемой] солнечного тепло- и [хла]доснабжения. В ее составе, например, солнечные нагреватели, встроенные в стеновые панели. У таких конструкций большое будущее. Включены в систему и холодильные установки: в районах с жарким климатом солнечная энергия поможет созда[ва]ть в помещениях приятну[ю] прохладу. Важная в наше время задача — разработка и испытание различных аппаратов для опреснения морской воды. Словом, комбинированная установка дает возможность проверить и отработать самые разнообразные узлы, схемы, элементы, использующие солнечную энергию.

— На основе углубленной и отлично технически оснащенной научной работы, — сказал В. Рыбалко, — будут выработаны обоснованные рекомендации для использования подобных систем при практическом проектировании и в строительстве, то есть для более широкого и эффективного внедрения солнечной энергетики в экономику и быт.

**Светлана БОРИСОВА.**
(АПН).





**Как известно, в Белоруссии нет гор. А желающих заниматься альпинизмом—тысячи. Для одних это спортивное увлечение, для других—активный отдых. Во многих городах республики созданы альпинистские клубы. Члены их проводят сборы и спортивные состязания в основном на Кавказе. Среди клубов наибольшего успеха добился «Зенит» (Минск). Он является чемпионом БССР прошлого года.**

**В этом же году зенитовцы решили осуществить восхождение на Эльбрус. Несмотря на неустойчивую погоду и низкую температуру белорусские альпинисты покорили одну из величайших гор Кавказа.**

**НА СНИМКАХ: альпинисты «Зенита» на восхождении; на связь с базовым лагерем выходят Михаил ГАВРИЛЬЧИК и Дмитрий НЕКРАШЕВИЧ.**

**Фото В. ТОРОТОЦКОГО.**

# *5 000 ЛЬВОВ ГОРОДА ЛЬВОВА*

В XIII веке князь Даниил Галицкий основал крепость для защиты западных границ Древней Руси и назвал ее в честь своего сына Льва — Львов. А изображение царя зверей вынес на городской герб, который остается на нем и по сей день.

За семьсот лет существования Львова львы стали неотъемлемой частью городского пейзажа. Они в огромных количествах смотрят на вас с фасадов зданий в виде барельефов и горельефов, служат консолями балконов, их скульптуры украшают парки и охраняют входы в общественные здания. Среди них есть львы сидячие, спящие, даже улыбающиеся. Многие относятся к выдающимся произведениям искусства.

Прежде всего следует упомянуть прекрасные статуи у входа в бывшую ратушу — сегодня здесь размещается городской Совет народных депутатов. Красивые благородные животные, держащие в лапах щиты, изваяны в лучших традициях европейского Ренессанса. Кстати, архитекторы и скульпторы Италии, родины Ренессанса, вообще охотно работали во Львове.

Великолепный палаццо в центре города, на площади Рынок, бывшая резиденция посла Венецианской республики, напоминает о широчайших международных связях города. Над входом и сейчас можно видеть символ св. Марка, патрона Венеции, — крылатого льва с библией в лапах. На фасаде другого дома на той же площади лев несет на спине смеющегося мальчишку. Величав лев и у входа в городской Дом архитектора.

В наши дни «поголовье» львов в древнем городе продолжает расти: они украшают вестибюли ресторанов, клубов, Домов культуры, кинотеатров. Как утверждают знатоки, сегодня во Львове их количество превышает пять тысяч.

**Олег ТОРЧИНСКИЙ.**
(АПН).

# ЭМОКСИПИН ЛЕЧИТ СЛЕПОТУ

**В СССР начат серийный выпуск не имеющего аналогов препарата эмоксипина для лечения заболеваний глаз. Эмоксипин запатентован в США, Франции, Швейцарии. Ведутся переговоры о продаже лицензий.**

— Число слепых на планете, по минимальным подсчетам, сделанным ВОЗ, приближается к 50 миллионам. Можно ли надеяться, что использование эмоксипина поможет предотвращать слепоту?

— Эмоксипин предназначен для лечения широкого круга заболеваний глаз, в том числе и приводящих к полной потере зрения, — рассказывает автор препарата доктор биологических наук **Анна ШВЕДОВА** из Института химической физики Академии наук СССР. — Причины слепоты различны. Привести к ней могут заболевания сосудов (их рост — примета нашего времени), травмы, кровоизлияния различного происхождения, ожоги, повреждения сетчатки. Во многих случаях эмоксипин не только предотвращает слепоту, но и возвращает потерянное зрение.

Как он действует? Известно, что основной источник энергии, необходимой любой клетке организма, — происходящие в ней реакции окисления, и прежде всего перекисное окисление липидов. Скорость его строго регламентируют специальные тормозящие вещества — антиоксиданты. Нормальный ход реакции могут нарушать стресс, повышенное содержание кислорода, интенсивный свет. Не правда ли, парадоксально: свет — основной носитель зрительной информации — может стать причиной слепоты?

Граница интенсивности светового потока, за которой он становится опасным для зрения, не так уж высока. Скажем, от белого снега под лучами солнца порой страдают глаза у альпинистов, жителей Крайнего Севера. Мне приходилось видеть таких больных. Эмоксипин вернул им зрение. Когда препарат проходил еще клинические испытания в Институте глазных болезней имени Гельмгольца, туда поступили одновременно десять человек, потерявших зрение в результате наблюдения за солнечным затмением. Им также удалось помочь.

Это, конечно, ситуации особые. Но с опасными для зрения воздействиями интенсивного света мы встречаемся и там, где труд человека связан с использованием мощной световой техники: в теле- и киностудиях, при стеклодувных работах, при сварке...

Сегодня можно считать доказанным, что интенсивный свет нарушает перекисное окисление липидов. Если оно начинает бесконтрольно нарастать, развивается поражение сетчатки глаза и другие тяжелые заболевания.

Естественно было предположить: чтобы «обуздать» неуправляемую реакцию, необходимо восполнить дефицит антиоксидантов. К ним относятся такие известные вещества, как витамин Е и его производные, убихинол, витамин С (в высокой концентрации), и многие другие. Среди них нужно было выбрать наименее токсичные и удобные для практического применения — водорастворимые, устойчивые. В рамках академической программы «Биооксидант» мы изучили десятки веществ — в пробирке, в экспериментах на животных. Это была большая совместная работа коллективов ученых Института химической физики, Химико - фармацевтического института, врачей клиники глазных болезней имени Гельмгольца и, конечно, специалистов завода, выпускающего препарат.

Эмоксипин можно использовать не только для лечения уже возникших заболеваний. Он полезен и для профилактики фотоповреждений сетчатки, способствует рассасыванию внутриглазных кровоизлияний. Препарат может устранять липидные отложения (в том числе атеросклеротического происхождения), проявлять противоотечное действие, уменьшать площадь отслойки сетчатки, повышать остроту зрения. Мы убеждены, что показания к его использованию в широкой практике будут расширяться, выявятся еще неизвестные нам способности эмоксипина. Над этим мы и работаем.

**Белла ЛУКЬЯНОВА.**
(АПН).

## ІМЁНЫ, ЯКІЯ ВЕДАЮЦЬ УСЕ

# ЖЫВАЯ ЛЕГЕНДА САВЕЦКАГА ТЭАТРА

Калі восенню 1926 года Расціслаў Плят прыйшоў «экзаменавацца» ў Маскоўскі Мастацкі тэатр, яго не прынялі «па маладосці гадоў і поўнай нявдольнасці». І ўсё ж, мусіць, у ім — 17-гадовым падлетку, даўгавязым і нязграбным — адчувалася нейкая скрытая сіла таленту, што кранула і зацікавіла Юрыя Завадскага (вучань Станіслаўскага, доўгія гады ўзначальваў вядомы Тэатр імя Массавета), які кіраваў тады невялікай тэатральнай студыяй. Ён паверыў у артыстычную будучыню маладога чалавека, не прызнанага карыфеямі МХАТа, і прыняў яго ў сваю студыю...

З тых далёкіх восеньскіх дзён мінула больш за 60 гадоў. Сёння акцёр Расціслаў Плят — легендарная фігура, жывая старонка гісторыі савецкага тэатра. За плячамі ў яго доўгі і плённы творчы шлях, вялікае мноства ролей (у тым ліку і ў кіно), якія зрабілі яго папулярным настолькі, што ў любога гледача пры адным толькі ўпамінанні яго імя адразу ва ўяўленні паўстае Плят. Усякі раз свой, асаблівы — гумарыстычны, амаль па-дзіцячаму наіўны ці бліскуча дасціпны і трапна з'едлівы, пяшчотны і дабрадушны ці ўдумлівы і сур'ёзны. І нязменная рыса любога з гэтых вобразаў — інтэлігентнасць, высокая ўнутраная культура, добразычлівасць.

За сваё творчае жыццё Плят пераіграў, напэўна, ва ўсіх тэатральных жанрах — у камедыях, фарсах, вадэвілях, лірычных драмах, трагедыях, філасофскіх прытчах. У спісе ролей, сыграных Плятам, — чэхаўскі Вайніцкі і Цэзар з п'есы Шоу «Цэзар і Клеапатра», Мурзавецкі з «Ваўкоў і авечак» Астроўскага і Крагстад у ібсенаўскай «Норы», фон Ранкен з п'есы Андрэева «Дні нашага жыцця» і Шоу у «Мілым ілгуне» Джона Кілці, Раевіч з рэвалюцыйнага «Шторму» Біль-Белацаркоўскага, Фёдар Карамазаў з «Братоў Карамазавых» Дастаеўскага і многія-многія іншыя героі. Нават цяжка сабе ўявіць, што такія розныя па амплуа, непадобныя адна на адну ролі мог сыграць адзін і той жа артыст. А Плят іграў, прычым бліскуча.

— Расціслаў Янавіч, маглі б вы назваць самыя любімыя з вялікага мноства сыграных вамі ролей?

— Усяго не пералічыш. Усе ролі любімыя — кожная па-свойму.

— А ёсць у вас несыграныя ролі, пра якія марылася?

— Ёсць, вядома. Але, зрэшты, усе мае ролі — і сыграныя, і не — ужо ў мінулым. Што яго варушыць...

У кожнай сваёй ролі Расціслаў Плят абавязкова дабіваўся непаўторнасці і гранічнай выразнасці вобраза, які ствараў. І пры ўсім багацці падуладных яму выразных сродкаў — ад тонкай іроніі і парадзійнага гратэску да самага складанага псіхалагічнага аналізу ўнутранага жыцця героя — Плят заўсёды быў на сцэне выключна шчырым і дакладным. Што б ён ні іграў — фарс, меладраму, сатыру ці трагедыю, — яму нельга, немагчыма было не верыць.

— Вы больш за 60 гадоў служыце тэатру. Вам даводзілася працаваць з праслаўленымі майстрамі савецкай сцэны. Каго вы можаце назваць з тых, хто пакінуў найбольш яркае і моцнае ўражанне?

— Юрыя Завадскага, майго настаўніка. Помню, у час першай на нашай сустрэчы, мінутнай, нязначнай, мною авалодаў нейкі незразумела святочны настрой. Потым мы многа гадоў працавалі разам, многа перажылі — і добрага, і дрэннага, былі і незабыўныя ўдачы, засмучэнне пустых сезонаў, але вось гэтае першае адчуванне — чаканне творчых радасцей ад работы з ім — засталося назаўсёды.

Здавалася б, Завадскі быў створаны для таго, каб быць рэжысёрам-дыктатарам: прыродная сцэнічнасць, бездакорны густ, нястрыманая фантазія на мізансцэны, нарэшце, уменне цудоўна паказваць. Але ўсё гэта было падпарадкавана галоўнаму: уменню здагадацца аб скрытых магчымасцях акцёра, уменню раскрываць і выяўляць іх. Завадскі ніколі не фантазіраваў «асобна» ад індывідуальнасці выканаўцы...

Творчы саюз рэжысёра Завадскага і акцёра Плята налічваў больш за 50 гадоў, з часам ён перарос у вялікую чалавечую дружбу, і справа тут, я думаю, не толькі ў агульнасці творчых памкненняў, але і ва ўнутраным, духоўным адзінстве. Абодва яны — інтэлігенты з вялікай літары, людзі самай высокай унутранай культуры. Раднілі Плята з яго настаўнікам і адносіны да тэатра: не проста любоў, і не проста адданасць, а святая вера ў вялікую місію тэатра, у яго жыццёвую неабходнасць.

— Расціслаў Янавіч, а што б вы маглі сказаць пра тэатр сённяшні?

— Я, бадай, далучуся да тых, хто папракае яго за практычную адсутнасць спектакляў, якія б бралі за душу. На сцэне цяпер пераважае публіцыстыка, і гэта адпавядае духу часу, духу тых радыкальных пераўтварэнняў, сведкамі якіх з'яўляемся мы ўсе. Перабу[...]а тычыцца ўсіх сфер нашага жы[...] і мастацтва тэатра — не выключэнне. Але ж публіцыстыка больш звернута да розуму чалавека, а людзі хочуць яшчэ і хвалявацца, і спачуваць героям, і перажываць з імі іх радасці і трывогі...

Раней рэжысёры, ды і мы, акцёры, скардзіліся на адсутнасць свабоды ў выбары рэпертуару, на цяжкую неабходнасць узгадняць прымаемыя ў работу твор[...] [...]ышэйстаячымі арганізацыямі. [...] нам дадзена поўная свабода. Але ж менавіта цяпер і ўзрасла наша адказнасць за тое, з чым мы выходзім да гледача, што нясём яму са сцэны. І, на мой погляд, вастрыня і злабадзённасць тэматыкі ў сучасных п'есах і спектаклях нярэдка становіцца самамэтай, а эмацыянальнае ўздзеянне на гледачоў адступае на другі план. А шкада...

— А якім вам бачыцца заўтрашні дзень тэатра? Не сакрэт, што цяпер у наяўнасці некаторае зніжэнне цікавасці гледачоў да тэатральнага мастацтва. Раздаюцца нават скептычныя галасы, якія прадказваюць, што тэатр не вытрымае канкурэнцыі з кіно, тэлебачаннем і прадукцыяй відзарынку і што дні яго злічаны...

— Не, я перакананы, што тэатр не памрэ ніколі! Якім ён будзе заўтра, не ведаю: магчыма, з'явяцца нейкія неверагодныя матэрыялы для дэкарацый, п'есы нязвычнай формы, якія запатрабуюць нечаканага сцэнічнага прачытання... Не ведаю... Але ўпэўнены я ў адным: вечна новым, здольным здзіўляць і ўзрушваць можа аказацца толькі адно — высокае майстэрства акцёра, яго жыццё ў вобразе, хваляванне яго душы. Словам, тыя імгненні акцёрскага натхнення, дзеля якіх і існуе тэатр. Таму што ні ў кіно, ні на экране тэлевізара глядач не ўбачыць жывога акцёра, які стварае сёння, цяпер, тут. Такое мастацтва магчыма толькі ў тэатры. І дзеля сустрэч з такім мастацтвам глядач, я ўпэўнены, не здрадзіць сцэне ніколі!..

Апошні сезон Расціслаў Плят ужо не выходзіць на сцэну і не здымаецца ў кіно — падводзіць здароўе, а ў снежні гэтага года яму спаўняецца 80 гадоў. Але Плят, як і раней, жыццярадасны, дасціпны, іранічны; як і раней, горача цікавіцца ўсімі навінамі тэатральнага жыцця, з хваляваннем сочыць за работай свайго роднага Тэатра імя Массавета, у якім ён пачаў працаваць амаль паўстагоддзя назад.

**Наталля ПІВАВАРАВА.**
(АДН).





**Новы гісторыка - краязнаўчы музей у Браславе Віцебскай вобласці прыняў першых наведвальнікаў. Маляўнічы старадаўні дом на развілцы вуліц у цэнтры горада запрашае азнаёміцца з гісторыяй Браслава, якая налічвае больш за дзевяцьсот гадоў.**

**Цудоўна аформленая экспазіцыя музея расказвае аб археалагічных знаходках вучоных, аб складаных гістарычных шляхах Браслава, аб рэвалюцыйным руху, станаўленні Савецкай улады, аб гераізме браслаўчан у гады Вялікай Айчыннай вайны.**

**Вялікую цікавасць выклікаюць у наведвальнікаў залы, дзе экспануюцца прадметы старадаўняга быту, прылады працы. Музей далучае да гісторыі і культуры роднага краю.**

**НА ЗДЫМКАХ: музей у Браславе; навуковы супрацоўнік музея Канстанцін ШЫДЛОЎСКІ за разборам новых паступленняў; у адной з залаў музея.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**



# У ВЯНОК БЕЛАРУСІ

**Парадніліся не па прымусу,**
**па размаху сваёй дабраты,**
**беларусы мае, беларусы,**
**па крыві, па ідэі—браты.**

Гэтыя радкі з верша «Беларусам» рускага паэта Яраслава Смелякова можна было б зрабіць эпіграфам да новай кнігі «Беларусь—маё слова і песня. Паэты свету пра Беларусь», якая выйшла ў выдавецтве «Юнацтва» (Мн., 1988). Белая Русь даўно не белая пляма на карце сусветнай цывілізацыі. На працягу ўсяго жыцця за бясконцымі шарэнгамі родных слоў у кнігах, часопісах, газетах у полі нашага зроку праходзіць гісторыя рэспублікі, людзі з іх характарамі, норавамі, разнастайныя малюнкі прыроды... Пазнаёміцца з Беларуссю, з рэспублікай-партызанкай, парадавацца яе поспехам ехалі і едуць людзі з розных куткоў нашай многанацыянальнай Радзімы і замежных краін.

Паэзія—самы аператыўны жанр усіх літаратур, і таму вынікам паездак ці прачытанай інфармацыі пра нашу рэспубліку з'явіліся шматлікія вершы, невялікія паэмы, упісаныя ў вянок Беларусі. 93 паэтычныя творы ўвайшлі ў названы зборнік. Яго адкрываюць вершы рускіх паэтаў А. Твардоўскага, А. Пракоф'ева, Я. Еўтушэнкі, С. Будзенкі, майстроў слова ўсіх саюзных рэспублік. З цікавасцю пазнаёмяцца чытачы з вершамі і паэмамі паэтаў В'етнама, Кубы, Манголіі, Польшчы, Чэхаславакіі, Англіі, Італіі, Нарвегіі, Уругвая і Францыі.

Майстры паэтычнага слова кожнай з названых краін усхваляванымі радкамі расказваюць аб нашай роднай Беларусі, яе людзях, яе гісторыі, яе сённяшнім дні, аб краявідах розных рэгіёнаў. Вось радкі з верша армянскага паэта Вачагана Аванесяна:

**Цябе нібы неба нарадзіла,**
**Купала ў вечарах азёр лясных,**
**Тут і вочы ясныя на дзіва,—**
**Ты, Беларусь, дабрэйшая за ўсіх.**

**Мікалай РОЗУМ.**

*ТАПОНІМЫ—БЯСЦЭННЫЯ ПОМНІКІ ВУСНАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ*

# ЧАМУ ТАКАЯ НАЗВА

Культурная спадчына Беларусі ўвабрала шматвяковыя матэрыяльныя і духоўныя набыткі свайго народа. Разам са старадаўнімі архітэктурнымі збудаваннямі, руінамі гарадзішчаў і замкаў да нас дайшлі бясцэнныя помнікі вуснай народнай творчасці—тапонімы (ад грэчаскіх слоў «топос»—месца, мясцовасць і «онома»—імя).

У тапонімы народ упісаў сваю гісторыю, свой характар, схільнасці, звычаі, асаблівасці быту. Па іх мяркуюць аб мінулых міграцыях насельніцтва, аб кантактах паміж этнасамі. У сукупнасці тапанімія—гэта своеасаблівая аповесць усіх часоў і пакаленняў пра наш агульны славянскі лёс, пра лёс асобных славянскіх плямён і народаў.

Неабходнасць у намінацыі аб'ектаў узнікла ў глыбокай старажытнасці, яе вытокі ляжаць у першабытным грамадстве. У любой назве закладзены пэўны сэнс. Людзі ніколі не называлі свае паселішчы нейкім выпадковым словам. Ва ўсе часы свядома ці несвядома ў тапоніме адбіваліся найбольш істотныя асаблівасці аб'екта.

Кожны гістарычны перыяд пазначыўся ў тапаніміі сваімі спецыфічнымі рэаліямі. На заранку культуры, калі чалавек рабіў першыя крокі ў асваенні прыроды, асноўнымі сродкамі намінацыі служылі словы, якія абазначалі водныя аб'екты, элементы рэльефу, ландшафту. У тыя далёкія часы рака, возера, ручай, крыніца, гара, узгорак, асобнае дрэва на бязлеснай раўніне з'яўляліся надзейнымі арыенцірамі на мясцовасці. Вада разам з тым была своеасаблівым культам у старажытнага чалавека, мела выключна важнае значэнне ў яго паўсядзённым жыцці. У раннефеадальную эпоху (VI—сярэдзіна XI стагоддзі) у складзе тапаніміі прыкметна ўзрастае доля паняццяў прыватнага землеўладання: распрацаваныя ў лесе зямельныя ўчасткі, граніцы феадальных зямель. З паяўленнем права ўласнасці ў геаграфічныя найменні пачынаюць уваходзіць асабовыя імёны ўладальнікаў. Эпоха развітога феадалізму (XI—XV стагоддзі) характарызуецца актывізацыяй паняццяў, звязаных з прыватнай уласнасцю. Выкарыстанне асабовых імён у тапаніміі становіцца масавай з'явай. У XVI—XVIII стагоддзях хутка расце колькасць новых паселішчаў на неабжытых землях феадалаў, развіваюцца промыслы, змяняюцца формы землеўладання і землекарыстання. Тапанімія шырока адлюстроўвае гэтыя працэсы. У ходзе грамадскага развіцця пастаянна змяншаецца колькасць тапонімаў па прыродных асаблівасцях геаграфічнага аб'екта, усё больш узрастае роля грамадска-гістарычнага фактару.

Тапонімы ўзнікаюць у канкрэтных гістарычных умовах, іх паходжанне і сэнс знаходзяцца ў непасрэднай сувязі з жыццёвымі і гаспадарчымі інтарэсамі грамадства. У залежнасці ад спосабу жыцця ў розных народаў вызначыўся індывідуальны падыход да называння паселішчаў і іншых геаграфічных аб'ектаў. Беларусы працяглы час мелі справу з так званым падсечна-агнявым земляробствам. Ва ўмовах падсекі зямлю даводзілася літаральна адваёўваць у лесу. Яго спачатку падчэрвалі, падсушвалі, затым спальвалі, карчавалі, чысцілі ці выдзіралі. Здабытыя такім шляхам кавалачкі зямлі часцей за ўсё называлі па спосабу або працэсу апрацоўкі: ляда, пасека, чарцёж, чарцяж, гар, выгар, пагар, жар, жаркі, пожар, дзерць, дзертка, падзер, выдранка, чысць, цераб, расцяроб і інш. Назва дзялянкі звычайна пераходзіла і на паселішча. Так з'явіліся тапонімы Ляда, Вялікая Ляда, Баравое Ляда, Ляды, Лядкі, Лядзіны, Пасека, Пасекі, Гар, Пагар, Жар, Жары, [illegible]ар, Пажаркі, Дзерць, Дзерці, Дзер[illegible] Дзертніца, Падзер, Выдранка, Чысць, Чысці, Карчаваха, Цераб, Расцяробы, Чарцёж, Чарцяж. Раскіданыя сярод лясных, балотных і пясчаных абшараў культурныя ўчасткі мелі выгляд невялікіх астраўкоў і палянак. Гэтая прыкмета таксама нярэдка клалася ў аснову тапонімаў. Прыгадаем беларускія назвы Востраў, Астравы, Астравец, Астравок, Астроўкі, Астроўна, Паляна, Палянка, Глебава Палянка, Хвойная Палянка, Палянкі.

Праз некаторы час лясная зямля збяднялася. Даводзілася пакідаць старую заімку (старыну) і распрацоўваць новую (навіну). Гэты этап у асваенні лясных масіваў вельмі шырока адлюстраваўся ў тапонімах. У самых розных кутках Беларусі сягоння можна сустрэць назвы Новіна, Новіны, Новінка, Новінкі, Навіна, Навіны, Навінкі, Старына, Старыны, Старынка, Старынкі.

Рад характэрных рыс сельскай гаспадаркі Беларусі абумоўлены ўвядзеннем у XVI стагоддзі індывідуальнай (валочнай) сістэмы землеўладання. У тапаніміі асабліва прыкметны след пакінулі назвы дадатковых участкаў, якія адводзіліся за межамі асноўнага надзела: Прыдаткі, Наддаткі, Наддаўкі, Рэзы, Дальняе Поле, Задняе Поле, Зады.

Асаблівасці сельскай гаспадаркі наклалі адбітак і на тып беларускага паселішча. Поле і жыллё ўспрымаліся старажытным чалавекам як непадзельнае цэлае. І толькі з цягам часу вычлeніліся спецыяльныя паселішчныя тэрміны. Большасць з іх увекавечыла ў сваім складзе беларуская тапанімія. У іх ліку горад, гарадзец, гарадок, гарадзішча, сяло, сялко, сялец, селішча, пасёлак, прысёлак, асёлак, сяліба, сялідзьба, навасёлкі, выселкі, двор, дварэц, дварок, дворышча, пагост, слабада, слабодка, вёска, стан, станавішча, сад, садок, воля, волька, курэнь, манастыр, ізбішча, печышча, фальварак, маёнтак, хутар, засценак, дача і іншыя. У сваёй большасці—гэта вельмі старажытныя словы. Дахрысціянскую язычаскую аснову маюць пагосты. Яшчэ ў дафеадальны перыяд атрымалі вядомасць горад (град), гарадзец, гарадок, сяло, весь, слабада, стан. На [illegible] этапах станаўлення лёс кожнага [illegible]міна вызначаўся формай сацыяльнай арганізацыі, характарам грамадскіх і вытворчых адносін, асаблівасцямі сістэмы землеўладання і землекарыстання. Паспрабуем паказаць гэта ў выглядзе асобных фрагментаў.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА.**
**(Працяг будзе).**

*ЛЯВОН ТАРАСЕВІЧ—МАСТАК З БЕЛАСТОКА*

# ВЫСТАЎКА ВАСЬМІ КАРЦІН



**Лявон Тарасевіч — наш зямляк. Ен жыве і працуе ў Беластоцкім ваяводстве Польскай Народнай Рэспублікі. Як мастака, яго ведаюць у многіх краінах Еўропы. А сёлета з яго творчасцю змаглі пазнаёміцца ў Беларусі. Выстаўка «беларуса з Польшчы», якая экспанавался ў мінскім Палацы мастацтва, прыцягнула вялікую ўвагу сталічных гледачоў. У Мінску Л. Тарасевіч сустракаўся з журналістамі і мастацтвазнаўцамі, меў з імі гутаркі. А перад гэтым экспазіцыю васьмі карцін аднаго з самых вядомых мастакоў Польшчы ўбачылі жыхары Гродна. Прапануем нататкі журналіста з гродзенскай выстаўкі Л. Тарасевіча.**

У невялікай выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў БССР, што ў Гродне на вуліцы Элізы Ажэшкі, гарэла святло. Звонку было відаць, як там на сценах развешваюць карціны. Рыхтавалася новая выстаўка. Але аб папярэдняй яшчэ нагадвалі вялікія чорныя літары на шыбе вітрыны. Я зноў склаў іх у імя — Лявон Тарасевіч — якое за месяц зрабілася для нас, гродзенцаў, сваім.

Падчас дэманстрацыі выстаўкі васьмі карцін гэтага маладога мастака з Польшчы залу не асаджалі прагныя аматары сучаснага жывапісу. Бо мастацтва Лявона Тарасевіча — складанае і даволі нетрадыцыйнае для нашага ўспрыняцця. Знаўцы залічваюць яго да плыні авангардызму, які ў нас доўгі час быў у становішчы нечага заганнага. Не дзіва, што большасць наведвальнікаў прыцягвала на выстаўку не перспектыва сустрэчы са звычным, знаёмым, зразумелым, а менавіта цікаўнасць.

Мне давялося назіраць, як залу агледзелі на працягу трох-пяці хвілін прафесійныя мастакі, якія прыехалі аўтобусам з Мінска. Бачыў усмешкі недаверу на іхніх тварах, непрыхаваны скептыцызм. Што ж тады было казаць аб іншых наведвальніках, якіх не навучылі змалку разумець усякае мастацтва, а не толькі тое, што культывавалася афіцыйна.

Наведвальнікаў выстаўкі я б умоўна падзяліў на тры групы. Адны віталі Лявона менавіта як свайго земляка, мастака-беларуса, які прыехаў з Польшчы і якога ўжо ведае ўвесь свет. Другія, спрабуючы вызначыць свае адносіны да ўбачаных карцін, прызнаваліся ў тым, што яны не ўмеюць «чытаць» падобныя карціны, але імкнуцца да гэтага. Трэція выказваліся непрыхільна і катэгарычна, маўляў, я гэтага не разумею, карціны не выклікаюць у мяне ніякіх пачуццяў, і таму такое мастацтва нам не патрэбна...

Відавочна, што паміж «не разумею» і «не хачу разумець» розніца істотная. Таму мне здаецца прынцыпова важнай тая акалічнасць, што людзі сёння імкнуцца пераадолець сваё няведанне, пашырыць межы ведаў.

Творы Лявона звычайна безназоўныя, гэтым ён пакідае гледачу поўную свабоду разумення, асацыяцый. Л. Тарасевіч любіць не толькі працу з пэндзлем, ён сам афармляў выстаўку, з любоўю рабіў беларускія надпісы. Яму хацелася, каб гродзенцы ведалі, што ён не проста «польскі мастак Лявон Тарасевіч», як яго рэкламавалі, а чалавек, які свядома імкнецца ўзбагаціць скарбніцу культуры свайго беларускага народа. У час знаходжання ў Гродне Лявон меў самыя шчыльныя кантакты з беларускім клубам «Паходня». Двойчы на пасяджэннях клуба мастак паказаў прысутным слайды са сваімі творамі. Спачатку гэта быў жывапіс, а другім разам — малюнкі, пераважна карыкатуры з беластоцкага тыднёвіка «Ніва» і часопіса беларускага студэнцтва ў Польшчы «Сустрэчы». Прыкладам, запомніўся ўсім нядаўні комікс пра шлюб Ягайлы з Ядвігаю, альбо вядомы аўтапартрэт Ф. Скарыны, перамаляваўшы які для вокладкі «Сустрэч», Лявон уклаў у ягоныя вусны словы: «Я таксама не вучыўся ў беларускай школе». Карацей, асноўныя тэмы малюнкаў мастака прадыктаваны яго шчырым жаданнем абудзіць і не даць згаснуць гістарычнай памяці сваіх землякоў, беларусаў па паходжанні, якім выпала жыць не разам са сваім народам.

Дагэтуль карціны Лявона Тарасевіча выстаўляліся ў вядомых выставачных залах Нью-Йорка, Лондана, Стакгольма, Рыма, Венецыі і іншых. Выстаўка ў Гродне сталася першай у СССР і сацыялістычных (апроч Польшчы) краінах наогул. Кожны, хто шчыра імкнуўся пазнаёміцца з цікавай асобай мастака, з ягонай творчасцю, быў усцешаны, што такая магчымасць надарылася.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**

*З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

*Заўчасна абарвалася жыццё вядомай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Яна трагічна загінула ў росквіце свайго таленту, не дапісаўшы радок верша...*

*У кастрычніцкім нумары часопіса «Полымя» былі надрукаваны вершы паэтэсы са зборніка «Твая прысутнасць». У іх — чулая да ўсіх бед чалавецтва, гатовая адгукнуцца на чужы боль, адкрытая, часта такая безабаронная душа жанчыны.*

**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ**

## ДА ПАЭЗІІ

**І здрады боль, і прыварога**
**Агню,**
**што лучыцца з бядой...**
**Ізноў паэзіі дарога**
**Вядзе мяне сваёй хадой.**

**У гэтым свеце перасоўным,**
**Дзе слова з'еў павальны быт, —**
**Ізноў паэзіі бяссонне**
**Рыхтуе цяжкі мне іспыт.**

**Між багаўя і ямін з брудам,**
**Нібыта ў пустку ці ў прагал —**
**Жалезны век вяртае люду**
**Найкапітальнейшы метал!**

**О, гэтай цішы аскялёпкі**
**І чарапкі фарцовых драм...**
**Праз металічныя заклёпкі**
**І тылавых кардонаў кропкі**
**Мы спадзяёмся йшчэ на Храм!**

**І зноў! — па каліўцу, па граму —**
**Нясем святло па кругавой.**
**Паэзія — служэнне Храму! —**
**І ты не можаш быць другой.**

**Не ў прыхамаць астральным**
**знакам —**
**Твой Знак бунтуе і баліць.**
**І я шапчу прачула: дзякуй,**
**Што ты не можаш іншай быць!**

## НАД ХРОНІКАЙ 30-Х ГАДОЎ

**Які разгул шалёным капытам,**
**А здзекаў жах, нібы ў сярэднявеччы!**
**І Д'ябал у Суддзі перапытаў:**
**— Таленавіты! Значыць, небяспечны!**

**Ці не з жалезнай д'яблавай рукі**
**Пісьменнікі запісаны ў шпіёны!!**
**Ужо ляцелі кнігі на шматкі**
**І граззю пакрываліся імёны.**

**Ужо вучоны кроў сваю глытаў,**
**Бяззубы ў сорак, шамкаў па-старэчы,**
**А Д'ябал у Суддзі перапытаў:**
**— Не размаўляе! Значыць,**
**небяспечны!**

**Даносчыкам да твару ліпкі бруд,**
**Пры дапамозе іхняе брыдчэчы**
**Выносіліся словы, як прысуд:**
**«Таленавіты — значыць, небяспечны!»**

**Паміж травы трагічнай і груддзя**
**Стаю ў журбе і думаю аб вечным:**
**Таленавіты — сам сабе суддзя,**
**А для паскуд — заўсёды небяспечны.**

***

**Аціхнуць і не сустракацца,**
**Не запаляцца на святло,**
**І развітацца, развітацца**
**З тым, што шчымліва апякло!**

**Адна — і скрозь! — я вінавата**
**На гэтай хісткае зямлі.**
**Ды знаю: больш не будзе святаў**
**Ярчэй за тыя, што былі.**

**У даўгавечнасці нявечнай**
**Ідзе мой поўдзень халасты.**
**Адно мільгне яшчэ агеньчык**
**Незаімглёны! — для вярсты.**

**Між грандыёзнымі грамамі,**
**Між сціхлых пушчаў і палёў —**
**Знаць не хачу, што будзе з намі!**
**...Я не развітваюся з Вамі,**
**Хоць не прашу сустрэчных слоў.**

***

**Было. Былі. Была!**
**Мне маска не да твару.**
**Я тая, што прайшла**
**Трагедыяй пажару**

**І жар сухой вярсты**
**Да сэрца прытуліла,**
**Хоць за сабой масты**
**Усе — начыста! — спаліла.**

**У полымнай журбе,**
**Дзе шлях з вачэй знікае,**
**Я тая, што цябе**
**З усіх вятроў чакае.**

**Як град шалёна б'е,**
**Нібыта травы косіць.**
**...Я тая, што ў цябе**
**Палёгкі не папросіць.**

## *ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ*




Сёлета ў выдавецтве «Беларусь» выйшаў фотаальбом «Народжаныя жыццём». Ён знаёміць чытача са шматлікімі святамі і абрадамі, якія ўзніклі і распаўсюдзіліся ў Беларусі ў савецкі час. Прадмову да выдання напісаў доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт АН БССР В. Бандарчык. З гэтай прадмовы чытач даведаецца пра гісторыю ўзнікнення святаў, абрадаў і звычаяў на Беларусі. Вучоны расказвае як пра традыцыйныя, каляндарныя святы і абрады, якія прыйшлі да нас з глыбокай старажытнасці, так і пра абрады, народжаныя савецкай рэчаіснасцю. У альбоме змешчаны здымкі са шматлікіх святаў і абрадаў, якія сталі папулярнымі ў жыхароў рэспублікі. Напрыклад, гэта святы горада, абрады ўшанавання лепшых працаўнікоў, прысвячэння ў рабочыя... Яркай відовішчнасцю ўражваюць святы «Купалле», «Гуканне вясны», у якіх цяпер самы актыўны ўдзел прымаюць школьнікі і студэнты, рабочая моладзь.

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## ЦІ У ПОЛІ НЕ КАЛІНКА РАСЛА



**Ці у полі, ці у полі не калінка расла,**
**Ці у полі, ці у полі не чырвоная была,**
**Яе ўзялі паламалі ды у пучочкі павязалі:**
**Мусіць, трэба было, мусіць, трэба было.**

**Ці у лузе, ці у лузе не травінка расла,**
**Ці у лузе, ці у лузе не зялёная расла,**
**Яе ўзялі пакасілі ды ў стажкі палажылі:**
**Мусіць, трэба было, мусіць, трэба было.**

**Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не дачушка была,**
**Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не прыгожая была,**
**Мяне ўзялі замуж далі, свет навекі завязалі:**
**Мусіць, трэба было, мусіць, трэба было.**

**Ой, у полі, ой, у полі ды не рэчка цякла,**
**Ой, у полі, ой, у полі ды не быстрая цякла,**
**Былі рэчкі — паўсыхалі, харошыя — паўміралі:**
**Такая доля мая, горка доля мая.**

## *«РАЗМОВА» СА СВЕДКАМІ ДАЎНІХ ЧАСОЎ*

# НАЦЮРМОРТЫ... СА ЗНАХОДАК

Памятаю адзін выпадак з дзяцінства, калі, дапамагаючы бацьку пасвіць кароў, на дарозе, якая вяла да сяла, знайшоў старую манету. Яна незвычайна ўразіла маё дзіцячае ўяўленне. Не, не старажытнасцю сваёй (то была 20-капеечная манета пачатку 30-х гадоў з выявай рабочага з молатам у руках), а нейкай, як мне здалося, асаблівай прыгажосцю.

Усю дарогу дадому гэта знаходка поўніла мяне радасцю адкрыцця, і цэлы вечар я не мог надзівіцца на пазелянелую ад часу манету аж да тае хвіліны, калі, упаўшы з маіх рук і пакаціўшыся па падлозе, яна знікла ў шчыліне між дошак.

Гору майму не было канца. Суцяшаючы, бацька соваў мне ў рукі прыгаршчу іншых манет, але ўсё было дарэмна. Не ведаючы, як давесці чалавеку, я толькі паўтараў у роспачы:

— Ды яна ж была зялёная такая!

Дайшло да таго, што бацька абяцаў пафарбаваць у зялёны колер хоць пяць новых манет, але, абражаны ў лепшых пачуццях, а больш таго неразуменнем маёй тайны старэйшымі, я толькі плакаў ад горкай адзіноты і няўцешнасці.

Неаднойчы ўспамінаючы гэты выпадак, я думаў:

—Ці не тады і нарадзілася мая прыхільнасць да старых рэчаў, да іх таемнай і непаўторнай прыгажосці? А можа тады нарадзіўся ўва мне і мастак?..

Гэтак ці інакш падарожжа ў мінулае назаўсёды зрабілася адной з галоўных патрэб маёй душы.

Старыя рэчы, якія я ўжо не адзін год збіраю на берагах Дзвіны, у старажытным Віцебску і Полацку, сталі спадарожнікамі майго побыту, адкрылі не адну старонку гісторыі нашых гарадоў, тагачаснага жыцця людзей, іх таленавітасці і нязгаснай патрэбы ствараць прыгожае.

Як мастаку, «дружба» са старымі рэчамі многа дае мне ў разуменні сапраўднага хараства, пасціжэнні сакрэтаў формы, тайны каларыту, самой «душы» матэрыяльнага свету, бо час не толькі не разбурае прыгожае, але надае яму нейкую магічную сілу ўздзеяння мо ўжо тым, што пранесенае скрозь вякі хараство ...ццам бы нараджаецца зноў, адкрываючы ...аму, хто спасціг яго, тайну сваёй неўміручасці.

Неяк, блукаючы па залах археалогіі ленінградскага Эрмітажа, я адкрыў для сябе непаўторную прыгажосць старажытнага візантыйскага шкла, каларыстычнае багацце адценняў якога, увасобленае ў саюзе мастацтва і пацiны часу (налёт вякоў на шкле) не мае сабе роўнага.

І не бяда, калі старыя рэчы дайшлі да нас ...рагментарна (чарапком ці абломкам). Часта ...д такой «непаўнацэннасці» іх уздзеянне толькі павялічваецца.

Успомніце бязрукую Венеру Мілоскую ці безгаловую Ніку Самафракійскую... Ці стала сіла мастацтва ад гэтага меншай? Ці руіны старажытнага храма? Тут да першароднай прыгажосці прымешваецца своеасаблівы рамантызм лёсу твора, яго барацьбы з няўмольным часам.

Можна нават сцвярджаць, што хараство, азначанае часам, ператвараецца ў нейкае новае, вышэйшае хараство. Можа таму не толькі «слухаць» старыя рэчы, ці піць асалоду ад іх назірання, але і маляваць іх — для мастака вялікая радасць і вялікі ўрок.

Менавіта гэтыя пачуцці і напаўняюць мяне, калі з пэндзлем у руках «размаўляю» я са сведкамі даўніх часоў, якія падаравала мне Дзвіна.

Дзве акварэлі, прапанаваныя чытачам «Голасу Радзімы», пазнаёмяць вас з беларускай кафляй, шклом, якія бытавалі ў Віцебску і Полацку ў XVI — пачатку XX стагоддзя.

**А. МЕМУС.**









. вядома, хвароба перашкодзіла выступіць на Алімпіядзе ў Сеуле выдатнаму беларускаму штангісту Леаніду Тараненку. Але гэты спартсмен ізноў парадаваў нас рэкордамі свету. На спаборніцтвах у Канберы, прысвечаных 200-годдзю высадкі на аўстралійскі кантынент еўрапейцаў, Леанід Тараненка перамог у звышцяжкай вагавай катэгорыі. Прычым яго вынікі — у штуршку 266 і ў двухбор'і 475 кілаграмаў — новыя сусветныя дасягненні.

Футбалісты зборнай Савецкага Саюза завяршылі сезон таварыскімі сустрэчамі ў Сірыі і Кувейце. Чатыры гульні — чатыры перамогі. У гэтым туры добра выступілі прадстаўнікі нашай рэспублікі Сяргей Алейнікаў і Андрэй Зыгмантовіч. Сяргей Алейнікаў у гульні са зборнай Кувейта, якая завяршылася на карысць футбалістаў СССР з лікам 2:0, забіў адзін мяч.

Пераможцамі вярнуліся з Грэцыі са спаборніцтваў на Кубак свету па класічнай барацьбе мінчанін Сяргей Дземяшкевіч і Аляксандр Федарэнка з Гродна, якія выступалі ў складзе зборнай СССР. Аляксандр Федарэнка сёлета, як правіла, перамагаў на ўсіх спаборніцтвах. І вельмі шкада, што з-за пралікаў трэнераў алімпійскай каманды СССР гэты таленавіты спартсмен не змог паехаць у Сеул.

У Аўстрыі прайшло першынство Еўропы па дзюдо сярод дзяўчат. Упершыню прадстаўніца Савецкага Саюза заняла першае месца. Ёю аказалася наша зямлячка Вольга Тарасава (вагавая катэгорыя да 72 кілаграмаў) з Магілёва.

Усе мацнейшыя спрынтэры-канькабежцы сабраліся ў Заходнім Берліне. Тут прайшлі спаборніцтвы першага этапу Кубка свету-89. Ізноў парадаваў нас добрымі вынікамі мінчанін Ігар Жалязоўскі. Ён перамог на дыстанцыі 1 500 метраў і заняў трэцяе месца ў бегу на 1 000 метраў.

І апошняе. У Мінску ўрачыста адкрыўся IV міжнародны турнір па стоклетачных шашках. Ён сабраў вельмі моцных спартсменаў. Дастаткова толькі нагадаць некалькі імён: чатырохразовы чэмпіён свету мінчанін Анатоль Гантварг, чэмпіён свету 1982 года галандзец Янес Ван дэр Вал, гросмайстры Аляксандр Балякін, Міхаіл Каранеўскі, Мікалай Мішчанка (усе — СССР) і іншыя.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 1639